ББК 84 Бел 7
Б 67

Мастак А. І. АБЛАЖЭЙ

*Для малодшага школьнага ўзросту*

Сборник стихов лауреата Государственной премии Беларуси Дануты Бичель-Загнетовой охватывает произведения для детей, написанные поэтессой на протяжении двадцати лет. Искренне и проникновенно, по-товарищески говорит она с юными читателями о Родине, ее лесах и пущах, реках и озерах, зверях и птицах.

Б $\frac{4803120202-021}{М 307(03)-93}$ 38—93

ISBN 5-7880-0683-X





## ГАРАДНІЧАНКА

Гараднічанка — рэчачка малая,
яна з вялікім Нёмнам размаўляе.
Учора размаўляла і сягоння.
На берагах яе жыве Гародня.

Гародня — мужны старажытны горад.
Гародню вельмі любіць Нёман-волат.
У Нёман адусюль бягуць крыніцы.
Крыніцы не замуцяць чужаніцы.

А хто жадаў Гараднічанцы згубы,
той закаваў Гараднічанку ў трубы.
Ды рэчачка з вязніцы той выходзіць,
крынічыць у Вялікдзень, у стагоддзі.

## ПОЛЬКА-ГАРАДНЯНКА

Сорак ножак скача польку,
скача польку — гоіць больку.
Сорак ножак, ім няцяжка.
Гэта полечка-ятвяжка.

На зялёнай сенажаці
любяць жабкі сена жаці.
Заблудзіла жнейка ў жыце,
а вы маме не кажыце.

Абляцеў жаўронак поле
ды згубіўся у прыполе.
Кавалёк на скрыпцы грае —
жнейцы сэрца замірае.

Журавелька сеў на прыпек,
каравай у печы выпек.
Жаўрукі на каравai —
будзе свята ў нашым краі.

Сорак ножак скача польку,
скача польку, гоіць больку.
Я не полька — гараднянка,
гараднянка, крывічанка.

Я жыву на Гарадніцы
ля высокае званіцы.
Ножкі ў Нёмане купала.
Тут і полечка прапала.





## КУРАПАТКА

Снег наўкол, а ў курапаткі
ані норкі, ані хаткі.
Што ж паесці? Дзе паспаткі?
Мерзнуць лапкі ў курапаткі.

З'ела б церпкую каліну
ці кісліцу-журавіну —
за кустамі вельмі блізка
ходзяць страшны воўк і ліска.

Легла спаць у снежны ложак,
пад сабой не чуе ножак.
Раніцой на прыгуменні
ты пасып ёй круп са жмені.



## ЁЛКА

Елачка-бароўка
ў хату да цяпла
ад зладзюгі-воўка
з бору уцякла.
Пацеркі-каралі
ёлачку прыбралі.
Запалілі зорку —
пачалі гаворку.
Асвяціла ёлку
яркая вясёлка.
Скокнула пад ёлку
шустрая вавёрка.
Пачынаюць гулі
дудары-музыкі.
— Развяжы, дзядуля,
свой мяшок вялікі!

## ЗІМОВАЯ ЗАГАДКА

У якой пярыне
зайчык не прастыне?
Ля якой падушкі
ён пагрэе вушкі?

## МЯДЗВЕДЗЬ

Дзед Мядзведзь стаміўся троху —
лёг у мяккую бярлогу.
Смачна спалася яму,
не ўставаў усю зіму.

## ЕЛАЧКІ

Елачкі-ялiначкі чубатыя,
а на іх — сняжыначкі бахматыя.
Падымі галінку-бахматку,
пападзеш у зайкаву хатку.



## ДВА ГРЫБЫ

Пад сасною два грыбы —
цёмна-буры ды рабы.
А які з іх дзядзька вожык
пакладзе ў лазовы кошык?



## ПЕЎНІКІ

Маладыя пеўнікі,
а хвасты, як венікі.
На платах усе паселі,
вельмі весела запелі.



## ПРА МЯДЗВЕДЗЯ ДЫ ПЧОЛАК

Сеў Міхайла на калоду,
просіць:
— Пчолы, дайце мёду!
Пчолы дружна загулі.
Пчолы мёду так далі,
што Міхайла так зароў,
аж чутно на сем бароў.
У бярлогу ён забіўся.
Горкім мёд яму зрабіўся.

## АВАДЗЕНЬ

Авадзень
цалюткі дзень
каля вуха мне гудзеў:
— Жу-жу-жу, жу-жу-жу!
Укушу, укушу!
Ад мяне жарабкі
уцяклі да ракі.
Ад мяне цяляткі
уцяклі дахаткі.
Казляняткі — у кусты.
Качаняткі — да вады.



## ЗУБРЫ

Як ідуць — чутно здаля.
Як бягуць — дрыжыць зямля.
Раптам спыняцца, нібы
карчаватыя дубы.
Два рагі, бы два сукі.
Цёмна-бурыя бакі.
Не ад працы цяжкай, не,
па гарбу ў іх на спіне!
Хто прыдумаў, што зубры —
беларускія цары?
Не цары — гаспадары
у дрымучым гушчары.

Як ідуць, бары гудуць.
П'юць — успеняцца азёры.
Зарыкаюць — нікнуць зоры.
Узвышаюцца, як горы.
Хоць звяры яны, ды ўсё-ткі
неўміручыя, бы продкі.



## ЗНАЁМСТВА

— Што майструеш?
— Востры клін.
— Чый ты хлопец?
— Бацькаў сын.
— Дзе жывеш?
— У Гародні.
— Скуль твой бацька?
— З «Паходні».





## БАРАВІК

Па расе без чаравік
выбег з бору баравік.
Бачыць сонца...
Дзіўна трошкі:
як яно расце без ножкі?!

## ПЕРАПЁЛКА

Перапёлка лён палола,
моцна ножку пакалола
на калючую іголку.
Дык ратуйце ж перапёлку!
Трэба ж выцягнуць іголку
ды суцішыць ласкай больку,
падаслаць туман-падушку
ды пагладзіць, як дачушку.

## ТУМАН

Вечар скінуў на даліну
светла-шэрую пярыну.
Ранкам сонечны абоз
да ракі яе завёз.

## ЗЫКІ

У ночкі
гарачыя вочкі.
Ды хвалі
яе загайдалі.
Званочкі
ёй спевы складалі.
А зыкі
прапалі ў цямрэчы,
схаваліся ў ночы за плечы.
Зыкі —
начныя музыкі.

## ГАРБУЗ

Вырас тоўсты на градзе,
ды не скача і не йдзе,
пад лісток прылёг у цень
ды таўсцее з дня на дзень.



## ДЫБАЛА

На худыя хадулі
буслу боты абулі.
Дыб, дыб па балоце —
д ы б а л а ў чырвоным боце.

## ЧАМУ ВОЗЕРА ЗЯЛЁНАЕ



Нас праз тое возера
чапля перавозіла.
Возера ўсё зелена,
жабкамі заселена.
Возера — зялёнка,
жабчына пялёнка.
Гразкае, сухенька —
жабчына сукенка.
Ці даедзем дацямна
на начлег да бацяна?



## ЯКІ Ж ГЭТА МАЛЕНЬКІ ВЕРТАЛЁТ

У бабулін агарод
апусціўся верталёт.
Па лістах зашорхаў страх
ды памчаўся праз чарот.
Вінт адзін, а колькі крылцаў —
як злічыць, не памыліцца?

## ГРЫБ-ПАРАСОН

Там, дзе зайку сніўся сон,
вырас грыб, як парасон.
Мае гэткі ён фасон,
бо на дожджык вылез ён.

## ДЗІВОСЫ

У майго малога сына
ёсць дзівосная краіна
між духмяных мурагоў,
стракацення красак.
Брамы, сцены — з пірагоў
ды сцяжыны — з казак.
Тут малочны ручаёк
цёк да рэчкі праз гаёк.
Ліс аладак напячэ.
Воўча кашы натаўчэ.
Пчолкі сыну носяць мёд.
Грады маці поле крот.
Кошка ў вышытай спадніцы
круціць дзіўны калаўрот.
Зайчык сонечны на нітцы,
А каршун — яму браток.
Зранку спелыя суніцы
самі сыплюцца ў раток.
Журавель спраўляе танцы,
сом у возеры на дне...
Толькі ў песні-калыханцы,
у бабулінай мане.



## ДЗВЕ СЯСТРЫЧКІ

Дзве дзяўчынкі разам ходзяць,
рвуць цыбульку ў агародзе.
Свецяць зоркі-светлячкі,
скачуць коскі-каснічкі.

То яны сустрэнуць статак,
то накормяць парасятак.
На сучках высокіх дрэў
з берасцянкай ладзяць спеў.

Іх пабітыя каленкі.
Іх парваныя сукенкі.
Шчочкі вымыты наспех.
Носікі задраны ўверх.

Ласкай свецяцца ў іх вочкі.
Загарэлыя лабочкі.
От яны пабеглі ў поле —
неразлучныя ніколі.



## СЛОН СУРЫК

Сурык —
у заапарку ў Гародні
дабрадушны лагодны слон.
Загародку абступім, а ён
хобат цягне да нас,
нібы родны.

Без занятку сумуе Сурык —
працавіты і дужы звер.
Як за дзень яму зробяць вальер,
так за ноч па цагліне пабурыць...

## ЗУБРАНЯ Ў ГРОДЗЕНСКІМ ЗААПАРКУ

Я шчаслівая, зубрык,
што бачу цябе зблізку.
Можна пагладзіць рукой
тваю шорсткую пыску?

Парыжэлы твой горбік
расчасала бы гладка,
каб дазволілі мне,—
ты ж малы, як цялятка.

Хочаш, песню спяю,
як у казачнай пушчы
вецер з голлем пяяў,
толькі вочы заплюшчы.

Нейкі дзядзька, як блазен,
з травінкамі лезе...
Зубрык наш не галодны.
Ён сумуе па лесе.
Ён сумуе па вольнаму ветру, па статку.
Ён хацеў бы правесці
ўсе дні да астатку
ў Белавежы сівой,
дзе жыве яго мама.

Дзеці зубрыка любяць.
А ён іх таксама.





## СІВЫ ДЗЯТЛІК

Дзятлік сівы,
як праменьчык жывы,
то ўверх, то ўніз.
На суку павіс.
Схаваўся ў дупле.
Ізноў на ствале.



## ЯШЧАРКА

Вяжу з яловых лапак венік,
прыткнуўшыся на бервяне.
А вочы круглыя без веек
ва ўпор разглядваюць мяне.

Кажу ёй:
— Вытрымаю неяк
і справядлівы твой дакор.
Люблю спрадвечны шчыры бор
і вочы круглыя без веек...

Пасябраваць даю зарок
з пудлівай яшчаркаю порсткай.
Сівы дзядуля, наш барок,
казыча нас карою шорсткай.

## СОН

Спаць хацеў маленькі сон,
ледзь ступаў, хістаўся ён.
Ані зыку не чуваць:
— Дзе ж я буду начаваць?

Услухаўся кавалёк —
ён каваў непадалёк,—
падхапіў пад пашкі,
кажа: «Ты няцяжкі.
Падсаджу цябе за плечы
да санліўчыка-малечы.
У пакоі — цішыня,
спіце разам аж да дня».



## ЗОРЫ

Бегла ночка праз гушчар,
несла зоркі ў торбе хмар.
Напалохаў ноч камар,
з торбы высыпаўся жар.

## ХМАРА

Між нябёсамі ды лясамі
ведзьма з мокрымі кутасамі
прэцца і не можа спыніцца.
Ступа — гром, палае спадніца.
Засціць белы свет падалом.
Замятае след памялом.

## СОМІК

У акварыуме сомік
носам тыцкаецца ў шыбку
так пацешна, нібы гномік.
Палюбуйцеся на рыбку!
Падмятае донца вус.
Тут ахвота — не прымус.

## АКНО

— Ой, блакітнае акно!
— Неба яснае відно!

— А чаму акно шарэе?
— Гэта вечар вечарэе.

— А чаму счарнела шыбка?
— Ноч насоўваецца шыбка.

— Як агонь, гарыць фіранка!
— То світальная заранка!

— Залатое стала шкло!
— Зноўку сонейка ўзышло.





## КОТ-ПІРАТ

Коцік сплёў лазовы кошык,
прыхаваў за пасак ножык
і адправіўся нібы
ў бор па шчырыя грыбы.

Каля дубу:
— Ой, баліць
мне сярэдзінка, жывот! —
Лёг.
Надумаўся злавіць
дзятліка манюка-кот.

Дзятлік-лекар лечыць дуб,
чарвячкоў збірае, мошак.
Не залез манюку ў кошык.
Не папаўся і на зуб.

## БАБКА І ЖАБКІ

— Ты чаго назбірала, бабка,
у фартушок з мярэжкаў?
— Палавіла жэўжыкаў-жабкаў
з вузенькіх сваіх сцежкаў.
А то яшчэ хоцькі-няхоцькі
наступлю каторай на лапку,
будуць кульгаць жабоцькі
ды праклінаць мяне, бабку.
Выпушчу іх на лужок —
прастор там на скокі-пацешкі.
— А ты разгарні фартушок!
— Ой, уцяклі праз мярэжкі!
Адна схавалася ў складку.
Давядзецца лавіць спачатку.



## ЦЁЗКІ

Рома ўзлез на ясень,
там убачыў Яся:
— Ты чаго на ясені?
— То ж абодва Ясі мы.
Гэта ж мой зялёны цёзка.
Перад намі — наша вёска.

## ХОДА

Па паркеце крочыць Хода.
Ды паркет ёй — не выгода,
слізкі вельмі той паркет.
Ходзе трэба вольны свет!

## БОНКА

Шчаслівы! У мяне ж ёсць Бонка,
на шыі белая хвальбонка.
Нос доўгі — файны і шляхотны,
а кончык чорны ды вільготны.
А як вясёла скажа «гаў!»,
дык сам бы з ёю так брахаў
на куст у полі ці на слуп.
Мне залізала Бонка чуб.
Свавольна клацнула за нос,
як на руках да дому нёс.
Яшчэ малая наша Бонка,
пацехі рыжая скарбонка.



## ДЗЕНЬ І НОЧ

Яркі вогненны клубок
праз акно казыча бок:
— Гэй, санлівец-галубок,
пойдзеш з мамай у садок!

Прыйдзе ўвечары кудзелька,
вельмі спрытная круцелька,
скажа: «Цёплая пасцелька?
Дык няхай будзе нядзелька!»




Сушыць сонейка на траўцы
паласатыя матрацы.
Тут матрацы — рох, рох, рох!
Пакаціліся ў гарох.

*(дзікія парасяткі)*

Ярка-рыжы, ярка-рыжы!
Кураняты — хто куды.
Зловіць, у ланцуг паніжа!
Замяце хвастом сляды.

*(ліс)*

Гэта ж трэба!
На сцяжынцы —
шпількі вострыя ды шыльцы!

*(вожык)*

Прыбег шуру-муру.
Украў чыкі-брыкі.
А бягунчыкі дагналі,
чыкі-брыкі адабралі!

*(воўк, авечкі, пастухі)*

Зверху зоры,
знізу вата,
а між зор і ваты —
хата.

*(самалёт)*

Як бадне Рагуля рогам —
што зрабілася са стогам!
У нябёсы ўзняўся стог,
вымалаціўся гарох.

Ды адзін Рагулін рог
з неба скінуцца не змог.

*(зоркі і месяц)*

## ПАРСЮЧОК-ХАДОК І ЯБЛЫК-ВІС



Паміж галінак віс павіс.
Прыйшоў хадок у халадок
ды кажа:
— Віс, скакаў бы ўніз,
было б нам весялей, браток!

Адпавядае віс:
— Э, не!
Ты грызануць хацеў мяне?
Сасмяг ты, тлусценькі хадок.
А я салодкі, бы мядок.



## ЛУЗАНЦЫ

Між голлечка ваверкі
павесілі вядзёркі
ды спелыя арэшкі
вылузвалі з адзежкі.



## ЗАКЛІЧКА ВЯСНЫ

Сонца, зубкі пакажы!
Хай зазвоняць капяжы!

Сонейка, ха-ха, хі-хі!
Скіньце, людзі, кажухі!

Сонейка, рагачы!
Трэба зімцы ўцячы!

## ВОСЕНЬ

Восень пацеркі рассыпала на мох.
Іх нізаць жураўка дапамог.
Везла восень пэндзлікі на возе.
Малявала лісце на бярозе.
На ручай пускаў лістоту клёнік,
кожны лісцік — каляровы чоўнік.
Холадна, маркотна без абновы —
стыне Беларусі ліст кляновы.

## СІНІЧКІ

Цінькаюць сінічкі ля акна,
не трывожаць хлопца давідна.
Ты ж світання не праспі,
санліўчык,
справаў светлых, думачак-сінічак!



## АВЕЧКІ ДЫ ХМАРКІ



На крутым беразе рэчкі
пасуцца чатыры авечкі,
бачаць хмаркі ў люстэрку рэчкі
ды кажуць:
— Плывуць авечкі!

Углядаюцца хмаркі з нябёс —
бачаць авечыя каркі,
вачам не вераць нябось:
— Пасуцца чатыры хмаркі!

## ЗАДАЧКА



З лабавінкі грудочку да Нёмана
можна куляцца нястомна,
пакуль не зробіцца цёмна
дуроніку-індычку,
свойскаму парсючку,
і дзікаму парсючку,
і з белай зоркай бычку,
трэснутаму глячку,
нават сухому сучку.
Пастушку. Шпачку.

Узыходзілі на лабавінку —
то паменшала напалавінку
каманда:
сучок — у муць.
З глячка дударыкі п'юць.
Ў неба ўзляцеў шпачок.
Знік у кустах дзічок.
...Колькі ж распуснікаў
сам пастушок
нанач загнаў у хлевушок?





## ЗОРНАЕ НЕБА

Узышоў сярод зораў-кветак,
бы млыновае кола, ветах.
А насустрач мядзведзіца-маці:
— Ці не бачыў медзведзяняці?
З адвячорку шукаю дарма,
з мурашамі ў ажынах няма.
Надта ж моцна кахаю гарэзу.
Ветах-месяц, дубовае донца!
Закаціўся б ты ў цемру лесу,
дык абудзіцца яснае сонца.
А як знойдзеш майго малыша,
мёду дам выпіць з каўша.

Па Птушынай Дарозе Воз
да матулі сыночка падвёз.
Зіхацяць-мільгацяць у Возе
зоркі-вочы ды зоркі-восі.



## ГАБРЫНЬКА І ГАБРУСЬ

Габрынька і Габрусь
малююць Беларусь:
раку Дняпро і Сож
і дзетак басанож.

Малююць росны гай
і зайчыка ў гаі.
І любяць родны край
мацней за ўсе краі.

## ШЧЫГЛІК

На ўскрайку гаёвым шчыглік
спявае запеўкі мая.
Акрамя тых запевак шчырых
анічагуткі не мае.

Акрамя чатырох яечак
у гняздзе на галінцы бярозкі,—
каля дзюбы чырвоны венчык,
жоўтыя на крылцах палоскі.

Чатыры маленькія шчыглікі
праб'юць у яечках шчылінкі,
у сонцам сагрэтым лесе
запяюць беларускія песні.

## РАДЗІМА

Перад вачыма
наша Радзіма —
росаў бязмежжа
і Белавежа.
Зубрык махнаты
ходзіць ля хаты.
Заскоквае ў сны
конь вараны.

І за плячыма
наша Радзіма:
кніга Скарыны,
зорка Максіма.
Белыя коні
Крыўскай Пагоні
мчацца ўгару
праз Беларусь.





## НАША ВЁСКА

Наша вёска, як стракозка.
Крылле — возера палоска.
Журавель — стракозкі хвост.
Вокны — вочы навырост.

## КОЛЫ

Сланечніку жоўтыя сонцы
ўзышлі каля нашай хаты.
І грэюць пялёсткамі грады —
на кожнай градзе па вясёлцы.

Па бруку падскокваюць колы —
іх коціць конік сівы:
на спіцы яблыкаў колы
ад хвосціка да галавы.

Пабеглі мы на палянку —
катаем вобад вясёлы.
На стрэшку закінулі колы —
хай буслікі робяць буслянку.



## ЛОСЬ

Выйшаў з бору на прастор —
сонца прачыналася.
Рогам выкаціў на бор,
каб сагрэла і лася.

Покуль брыў па расе,
у пасцельках спалі ўсе.
Ледзь не выпіў рэчку Нёман —
вось тады пачаўся гоман.

Паглядзеў на малышоў
зрэнкамі рахманымі.
У хваёвы цень пайшоў
сцежкамі духмянымі.

Ён панёс на рагах
сонца спелага пах.
Пра сахатага лася
песня скончылася.



## КОЦІКІ

Коцікі спалі
ў цесных каморках.
Ды ручаінкі
звіняць на пагорках.

Коцікі селі
на кусцік вярбовы,
грэюць на сонцы
жоўтыя бровы.

## МЕСЯЦЫ

Месяц студзень —
свята ў будзень.
Многа снегу
для начлегу.
Цэлы свет ад снегу белы,
як бацян асірацелы.

Месяц люты
ў лёд абуты.
Снег зганяе з гор на дол.
Гола возера, як стол.

Прыбягае сакавік
у вясёлым гудзе —
снег зусім з пагоркаў знік.
Хутка цёпла будзе.

## ГРАК

Ты з-за мора, варанёны грак?
Дзе ж ты загарэў прыгожа так?
З поўначы?
Ці ж мог ты там счарнець?
Там ад снегу пабялеў мядзведзь!



## ШПАК

Ля шпакоўні пяе шпачок —
галасісты галаснічок.
Разлягаецца саснячок.

Ад шпакоўні — чароўнай шкатулкі —
у лясныя нетры, завулкі
разносіцца водгалас гулкі.

## КАТОК

Палюбіў каток каморку.
Там смятанка і зацішак.
Зранку і да падвячорку
спіць і ў сне ён бачыць мышак.

## МОЙ БРАЦІК

Прыйшла нячутным крокам ноч.
Маладзічок з бярозы блізкай
пацёрся аб маё акно
халоднай невясёлай пыскай.

А я шапчу маладзічку:
— Давай, браток, скачы на ложак.
Шмат месцейка ў пухавічку
і для тваіх агністых рожак.

Дзед зазірнуў у наш пакой:
ці не звалілася падушка...
Спакойна дыхаў мне на вушка
маладзічок...
Ён брацік мой.



## СОНЦА, ВЕЦЕР І СВІЦЯЗЬ

У тоні Свіцязі вецер
закінуў блакітны венцер,
хваля грукоча ў дно —
за Нёманам не чутно.

Жоўтае Свіцязі донца,
шаўковыя берагі.
Возера Свіцязь і сонца —
цёплыя два кругі.



## ДЗІЧКА

Прыбегла ў поле
небу пад крыло.
Разгалістае голле
расцвіло.

Страсаў пялёсткаў пух
пчаліны звон.
Раслі — ім сніўся
чарадзейны сон.

Будзілі дзічкі
досвіткам расу.
Цяпер прыполік
я дамоў нясу.

## УНУЧАК ЛЁНІК

Бабулю шкадаваў
унучак Лёнік:
— Стамілася?
Ідзі прысядзь на ўслонік.
Я вымыю гаршчок
і апалонік.
А добра, каб у нас
быў дужы слонік?
Скруціў бы ў кола хобат,
нібы вобад.

Ты абаперлася б
на дужы хобат.
У магазін хутчэй
схадзіў бы слонік,
прынёс бы ў хобаце
смятанкі слоік.

— Памыты ўжо
гаршчок і апалонік.
Схадзі ты ў магазін,
унучак Лёнік!

## ЦЯЛУШКА

Гнаў пастух цялушку цераз лог —
зорка з неба ўпала ёй на рог.
Уцякла ад сонейка ў раку —
выйшла з рыжай латкай на баку.
Плаўнікамі плотка ці шчупак
бок памалявалі ёй няўзнак.
Як папасвілася на расе,
вымыла бялютка чаравічкі ўсе.
Як дадому бегла праз масток,
зноў памалявала капыток.



## БЫЧОК

Убрыкнуў бычок вароты.
Тата кажа:
— Ну, чаго ты?
Навяжу цябе за рогі,
павяду брыкаць дарогі.

## КОТ І САБАКА

Кот сядзіць на дрэве, слёзы лье:
— Словы, Орс, няшчырыя тваe.
Ты ж казаў мне:
— Выйдзі, коця, з ганку —
дык аддам кілбаску і смятанку...
Ды загнаў на сук мяне, ахвяру.
Гаўкаеш, каб я залез на хмару.
А на хмарцы ўтульна сапраўды.
Ды хіба даскочыць мне туды!



## НАВАЛЬНІЦА

Цёмнае страшыдла
вокны патушыла,
зачыніла вароты,
раздражніла грымоты.

Па нябёсах угалоп
вараныя коні.
Дождж буйны, бы спелы боб,
сыпануў на гоні.



## ІНДЫК

— Што ты дыкаеш, Індык?
— Дык мой сын Банадык.
Дык мой быцька з Хадык.
Дык гартую свой кадык.

## МЁД

Назбіраў мядзведзь маліны,
з'еў набытак мураўіны,
выпіў возера як лёду,
а душа жадала мёду.

Як палез на верхні сук,
аж пад самы дзятлаў стук,
аж пад самыя аблокі,—
так высока мёд салодкі!



## ПЕРАБЛЫТАНКА

Гэта шэранькая качка
дрэмле ў будцы на баку.
Белалобы наш сабачка
ловіць рыбку на стаўку.

На вароты ўзлез акунь,
закрычаў:
— Ку-ка-рэ-ку!
Гэта пеўніка злавілі
замест рыбкі на стаўку.

## КЛЁЦКІ

Бабуля клёцкі качала
ды клёцкі так павучала:
— Чатыры лапкі, два вокі,
ды вы не клёцкі, а квокі.

## У ЗВІЛІНАХ НЁМАНА

Зялёнага Нёману
дужка надломана.
Ў стозе на выспачцы
можна і выспацца,
дзе ясна ад зорак,
між красак і зёлак...
Маладзічок —
пад правы бачок.
Пад паскам сцяжыны
лёг ды ляжы...

## НАША РЭЧКА

Наша рэчка плыткая ў ляску,
прагне, нібы кнігаўка, вады.
Ты ляжыш на жоўценькім пяску,
да цябе не знойдзены брады.

Паглыбела — бегла праз кусты
рэчка-быстрацечка-выскачка.
Бераг мой — гарысты і круты.
Бераг твой — з мураўкі выспачка.

## БЛАКІТНІЦЫ

Блакітніцы ў ляску
сабраліся ў чародку.
Аблюбавалі дзікі куст
ды селі пасяродку.

Падумалі грыбніцы,
што спелыя дурніцы.
Хацелі ягад назбіраць,
што сінім полымем гараць,
а ягад з неба не дастаць.



## БАЙ

Ходзіць бай па карнізе.
Баіць байкі капрызе.
З каляровым грабянцом,
з вельмі радасным канцом.

Бай нясе балалайку
ды сяброўвачку-гультайку,
самабранку, не абрус,
шакаладкі брус.

Бай і дочанькі байкі
каля ложка гультайкі
без асновы, без красён
ткуць ружовы сон.



## СОН

Варыў журавель жур
над сажалкай у гаршку.
— Спі, вачаняты зажмур,
мрою кладзі пад шчаку.

Кіпіць, паруе гаршчок,
клубамі туман плыве,
туманіцца ў галаве.
Са сном абніміся.
Маўчок...

## СОМ НА ПЛЫЦЕ

Сом на плыце
кошык пляце.
Сарока на плоце
няпраўду пляце.

А з-пад паветкі
злуецца каса.
Заплецена ў Светкі
тугая каса.

## СТРАКАЗА ДЫ ЖАБКА

На купіне квакае жабка:
— Нарадзілася б лепш стракозкай,
стракатала б сабе над лозкай,—
не дагнала б дзяўчынка Гапка.

А ў стракозкі слёзкі-дажджынкі:
— У зялёнай муце азярца
добра жабцы даваць нырца
ды хавацца ад Гапкі-дзяўчынкі.

## БАРСУЧОК



Я ў радок пастаўлю слоўкі —
вы,
мы,
ты,
я.
Дождж і сонейка. Галоўкі
вы —
мы —
ты —
я.
Многа нас! Нібы салоўкі —
вы,
мы,
ты,
я.
Барсучок бяжыць нялоўкі —
выліты я!



## НА ТАРАТАЙЦЫ ГРОМУ

Мы уцякалі шпарка,
ды нас дагнала хмарка.
Дождж лінуў, бы з вядра.
Дамоў, сябры, пара.

Мы па дажджы бягом,
нас даганяе гром.
— Вазьмі нас, гром, на воз
праехаць праз авёс!
Не бойся, мы не звалімся
з тваіх калёс у
строму.
Даўно мы не каталіся
на таратайцы грому.



## СОНЕЧНЫ ЗАЙЧЫК

Сонечны зайчык
гуляў па сцяне.
Сонца заснула —
прапаў у цямне...

З лаўкі саскочыў,
падумалі — знік.
Свеціць нам ноччу,
быццам начнік.

Я калыханку
слухаў ды спаў —
сонечны зайчык
месячным стаў.



## ДОЖДЖ

Вось едзе, едзе
дзядзька багаты
ды выганяе
сонейка з хаты —
гром.

За дзядзькам громам
голы ды босы,
чые сястрычкі
дробныя росы,—
дождж.

Ім вандраваць зусім недалёчка:
дождж церусіў
і гром ля далочку
граў.

Там, дзе зрабіла рака грымака,
скочыўшы ў Нёман, бы казачны гном,—
сальта выкручваў над кручаю гром —
Нёман лякаў...

Дождж перастаў,
пакуль пад гарою
спяць у дзядоўніку
спуджаным роем
чмелікаў трое...



## НЁМАН

Па Гародні Нёман льецца.
Злева сонейка смяецца.
Справа песня раздаецца.
Рыбка б'ецца, сэрца б'ецца.

Выпускае неба стрэлы.
Скуль з'явіўся коннік смелы?
Белы конь, за ім — пагоня.
Едуць вершнікі на конях.

Набяруць сабе маланкі
ў Нёмне вогненныя шклянкі.
Пакупаюцца абшары.
Перальюцца ў Нёман хмары.

Нёман стоміцца на лузе.
Нёман — сэрца Беларусі.
Па Гародні льецца Нёман,
малады вітае гоман.



## СТАРАЖЫТНЫ НАПЕЎ

— Хопіць мне дакукі!
Жыта сеяў дзед.
Я ж вазьму жалейку ў рукі,
павандрую ў свет!

— Рук чакае збожжа!
Кінь жалейку прэч.
Гэта птаху спеў даў Божа,
а салдату — меч.

— А без песні — плесня,
хоць ты мёртвым грай.
Песня з мёртвых уваскрэсне
ды абудзіць край.





## ЗМЕСТ




Литературно-художественное издание

**БИЧЕЛЬ-ЗАГНЕТОВА Данута Ивановна**

**ГОРОДНИЧАНКА**

**Стихи**

Минск, издательство «Юнацтва».
На белорусском языке.

Літаратурна-мастацкае выданне

**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Данута Іванаўна**

**ГАРАДНІЧАНКА**

**Вершы**

Рэдактар У. М. Мазго. Мастацкі рэдактар У. М. Жук. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Л. К. Паплаўская.
ІБ № 1693

Здадзена ў набор 15.07.91. Падпісана да друку 09.12.92. Фармат $60\times90^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Кудрашэўская энцыклапедычная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,0. Ум. фарб.-адб. 12,50. Ул.-выд. арк. 2,65. Тыраж 25 000 экз. Зак. 136.

Выдавецтва «Юнацтва» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220115, Мінск, Каржанеўскага, 20.

Дыяпазітывы тэксту падрыхтаваны Мінскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінатам МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.